Карповіч, Н. В. Рэалізацыя царкоўных рэформ у 60—70-я гг. ХІХ ст. у Беларусі / Н. В. Карповіч // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 259–265.

***Н. В. КАРПОВІЧ***

# РЭАЛІЗАЦЫЯ ЦАРКОЎНЫХ РЭФОРМ У 60—70-я гг. ХІХ ст. У БЕЛАРУСІ

Буржуазныя рэформы 60—70-х гг. ХІХ ст. сталі прадвеснікам станаўлення грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. У адным шэрагу з імі рэалізуюцца пераўтварэнні ў царкоўным ведамстве, накіраваныя на паляпшэнне юрыдычнага статуса і пашырэнне службовых праў праваслаўнага прыходскага духавенства. Менавіта апошняму ўрад адводзіў галоўную ролю ва ўсталяванні сацыяльнай стабільнасці ў дзяржаве.

Упершыню праблема царкоўных рэформ была закранута ў працах даследчыкаў канца ХІХ — пачатку ХХ ст. Некаторыя звесткі аб рэалізацыі пераўтварэнняў у канфесійнай сферы ў дачыненні прававога і матэрыяльнага становішча праваслаўнага духавенства Літоўскай епархіі разглядаў М. Ізвекаў, даныя аб удзеле святарства ў справах народнай адукацыі прыводзіў А. Мілавідаў [2; 3]. У савецкай гістарыяграфіі царкоўныя рэформы не з’яўляліся прадметам спецыяльнага даследавання. Значна больш увагі гісторыі духавенства стала надавацца ў сучаснай айчыннай гістарыяграфіі. Сярод беларускіх даследчыкаў асобныя аспекты рэалізацыі царкоўных рэформ у напрамку матэрыяльнага забеспячэння духавенства, прафесійнай падрыхтоўкі, асветніцкай дзейнасці адзначае В. Яноўская пры разглядзе хрысціянскіх канфесій Беларусі [16]. У цэлым тэматыка царкоўных рэформ у айчыннай гістарыяграфіі мела ўскоснае адлюстраванне.

У расійскай гістарыяграфіі В. Міратворцаў, М. Руноўскі [4, с. 13] спрабавалі даць адзнаку царкоўным рэформам у Расіі, не звяртаючы ўвагі на іх спецыфіку ў заходніх епархіях. Сучаснымі расійскімі даследчыкамі В. Жаўтовай і Н. Івановай, С. Рымскім, В. Фёдаравым [1, с. 12, 15] падкрэсліваецца, што царкоўныя рэформы праходзілі па спецыяльнай праграме ў кантэксце іншых рэформ 60—70-х гг.

Мэтай дадзенага артыкула з’яўляецца аналіз рэалізацыі царкоўных рэформ 60—70-х гг. ХІХ ст. у беларускіх губернях.

Пасля падзей паўстання 1863—1864 гг. палітыка ўрада ў беларускіх губернях змянілася да мэтанакіраванай русіфікацыі, сацыяльнай апорай якой з’яўлялася праваслаўная царква. Адным з напрамкаў царкоўных рэформ было паляпшэнне матэрыяльнага становішча праваслаўнага духавенства за кошт скарачэння яго штату. Таму ўрад паводле палажэння ад 16 красавіка 1869 г. «Аб складзе прыходаў і царкоўных прыч-



таў», распрацаванага Асабовай Прысутнасцю [11, № 46974], вырашыў скараціць штатныя адзінкі духавенства, а сродкі накіраваць на паляпшэнне матэрыяльнага дабрабыту пакінутых на службе святароў. У выніку ў цэлым па Расійскай імперыі палепшыць становішча духавенства за кошт скарачэння пасад свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў не ўдалося. Нягледзячы на запланаваныя маштабныя скарачэнні, колькасць духавенства зменшылася, але, галоўным чынам, за кошт дапаможнага персаналу — прычэтнікаў. У беларускіх епархіях рэалізацыя рэформы мела свае спецыфічныя рысы. Праваслаўнае духавенства заходніх епархій адзінае атрымлівала дзяржаўныя аклады, бо пачынаючы з 1861 г. выдзяленне сум з казны на ўтрыманне праваслаўнага духавенства ў астатніх епархіях Расійскай імперыі спынялася [16, с. 30]. Дапаможныя крыніцы даходаў духавенства: зямля, зборы з прыхаджанаў і іншыя мясцовыя сродкі — не прыносілі значнага даходу, таму дзяржава неаднаразова павялічвала аклады духавенству беларускіх епархій. Павелічэнне колькасці праваслаўных вернікаў, адкрыццё новых прыходаў патрабавала дадатковых штатаў. Таму новыя штатныя расклады ўводзіць у беларускіх епархіях не спяшаліся. У Магілёўскай епархіі яны былі зацверджаны ў 1873 г., у Літоўскай, Мінскай, Полацкай — у 1875 г. Мясцовыя архірэі, скарыстаўшыся нявызначанасцю палажэння, а таксама па загадзе вышэйшых царкоўных улад, адкрылі царкоўных прыходаў болей, чым існавала раней, што патрабавала павелічэння колькасці святароў [2, с. 213]. Паводле даных С. В. Рымскага, у Літоўскай епархіі штат святароў павялічыўся на 43 чалавекі, у Мінскай — на 18, у Полацкай — на 32. Колькасць месцаў прычэтнікаў скарацілася амаль на трэць [12, с. 532]. Такім чынам, духавенства Беларусі ў чарговы раз атрымала дадатковае жалаванне за кошт скарачэння прычэтнікаў. У канцы 1870-х гг. у Расійскай імперыі палову ўсіх сродкаў, асігнаваных на забеспячэнне праваслаўнага духавенства, атрымлівалі святары заходніх епархій.

Адным з напрамкаў царкоўных рэформ стала пашырэнне асабістых і грамадзянскіх праў духавенства. У дарэформенны час духавенства з’яўлялася замкнёным саслоўем. Царкоўнапрыходскія пасады перадаваліся духавенствам у спадчыну, не ўлічваючы асабістых, прафесійных якасцей прэтэндэнтаў на пасады. У спадчыну месцы ў прыходах перадаваліся дзецям святароў. Акрамя таго, у шлюб уступаць яны мелі права толькі з прадстаўнікамі свайго саслоўя. Адначасова ні дзеці, ні ўдовы духавенства не маглі выбіраць

грамадзянскую службу, паколькі гублялі свае саслоўныя правы. Забарона паступаць у духоўныя навучальныя ўстановы асобам іншых саслоўяў перашкаджала папаўняць штат духа-



венства прадстаўнікамі іншых сацыяльных груп. У мэтах ліквідацыі саслоўнай замкнёнасці праваслаўнага духавенства, пашырэння яго праў урад прымае шэраг пастаноў. Загадам Дзяржсавета ад 22 лютага 1867 г. адмянялася перадача ў спадчыну царкоўнапрыходскіх пасад [11, № 47138]. Распараджэннем ад 26 мая 1869 г. з духоўнага звання былі выключаны ўсе дзеці духавенства [11, № 46974], але захоўвалася іх права на адукацыю ў духоўных навучальных установах, а таксама ім дазвалялася займаць пасады свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў, атрымліваць дапамогу ад царкоўнапрыходскіх папячыцельстваў і іншых дабрачынных арганізацый. Такім чынам, дзеці духавенства, хаця і былі выключаны з ліку асоб духоўнага звання, захавалі за сабой усе яго правы і льготы. Рэалізацыя рэформы ў абазначаным накірунку сутыкнулася з некаторымі цяжкасцямі. Архірэяў у многіх выпадках прызначалі на царкоўную пасаду, улічваючы ранейшыя сямейныя традыцыі духавенства, а таксама асабістыя матывы. Нягледзячы на адмену абавязковай духоўнай адукацыі для дзяцей духавенства, а таксама прыналежнасць да духоўнага ведамства, большасць іх рушыла па шляху бацькоў. Але ў заканадаўстве не засталося ніякіх падстаў для захавання саслоўнай замкнёнасці духавенства, што садзейнічала яго сацыяльнай мабільнасці і паступоваму пераўтварэнню з саслоўя ў прафесійную групу.

У накірунку павышэння сацыяльнага статуса духавенства царскія ўлады бачылі асноўную задачу — даручыць духавенству шэраг сацыяльных функцый, у тым ліку і культурна-асветніцкую. У мэтах барацьбы з польскім уплывам было вырашана даручыць выкладаць духавенству Закон Божы і іншыя прадметы ў пачатковых школах Міністэрства народнай асветы. Адначасова былі ўзняты крытэрыі і патрабаванні да свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў (псаломшчыкаў) пры атрыманні адпаведнай царкоўнай пасады. Святары, на іх погляд, павінны былі быць сталыя і вопытныя, а царкоўнаслужыцелі — мець поўную семінарскую адукацыю.

Заканадаўствам уводзіўся прынцып паступовасці займання пасад у царкоўнай іерархіі — абавязкова ад ніжэйшых да вышэйшых. Акрамя таго, уводзіліся нормы вызначэння ўзроставага цэнзу для свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў. Паводле законапалажэння ад 16 красавіка 1869 г. «Аб складзе прыходаў і духоўных прычтаў» на вакансію царкоўнаслужыцеля дазвалялася прымаць тых асоб, хто дасягнуў 25 гадоў. Святаром мог стаць не маладзейшы за 30 гадоў. Для аўдавелых і халастых цэнз павялічваўся да 40 гадоў [11, № 46974]. Але паколькі пастановы ўтрымлівалі адступленні «па выключнай неабходнасці», што дазваляла ў вы-



падках, калі не хапала кандыдатаў адпаведнага ўзросту, прыцягваць асоб больш маладзейшага ўзросту. Так, у Мінскай епархіі, па прычыне недахопу святароў, Св. Сінод дазволіў архірэю ў 1870 г. прымаць на пасаду і тых, хто скончыў семінарскі курс у 25-гадовым ўзросце. Далей удакладнялася, што ўзрост дыякана складаў не менш 21 года, а святара — 24 гады [8, арк. 13—15]. Узроставы цэнз не ўлічваўся, калі прэтэндэнты на пасаду мелі поўную семінарскую адукацыю. Да канца XIX ст. практычна ўсе святары Беларусі мелі семінарскую адукацыю.

З мэтай узняць статус царкоўнаслужыцеляў улады вырашылі прымаць на адзначаную пасаду асоб з семінарскай адукацыяй. У беларускіх епархіях не хапала псаломшчыкаў з адпаведнай адукацыяй, таму запрашалі асоб і без семінарскай адукацыі, але з паіменнем «выконваючы абавязкі». Тым не менш узровень адукаванасці сярод царкоўнаслужыцеляў павялічваўся. Так, у Мінскай епархіі ў 1876 г. сярод прычэтнікаў поўную семінарскую адукацыю мелі 2 % [7, арк. 22], а ў 1905 г. іх колькасць складала 15 % [14]. А ў Магілёўскай епархіі ў 1896 г. гэты паказчык дасягнуў — 60 % (адпаведна) [5]. У першую чаргу на пасаду псаломшчыка прымаліся тыя асобы, хто працаваў у пачатковай школе. Нягледзячы на імкненне ўрада пры дапамозе матэрыяльных сродкаў і ўзнагарод прыцягнуць свяшчэннаслужыцеляў да настаўніцкай дзейнасці ў пачатковых народных школах, частка з іх адмаўлялася працаваць, спасылаючыся на занятасць у прыходах. Так, у Мінскай губерні колькасць святароў-настаўнікаў, не ўлічваючы тых, хто выкладаў Закон Божы, у перыяд 1867—1868 гг. зменшылася на 10 (з 97 да 87) асоб [9, 10]. Пачынаючы з 1884 г., калі адбываецца хуткі рост царкоўнапрыходскіх школ і школ граматы, пазіцыі праваслаўнага духавенства ў справе народнай адукацыі становяцца даволі трывалыя.

Адным з накірункаў рэформ было развіццё ў асяроддзі духавенства саслоўнага самакіравання. Святары атрымалі права збірацца на з’езды, выбіраць дэпутатаў і благачынных. У епархіях уводзіліся з’езды трох узроўняў: епархіяльныя, акруговыя вучылішчныя, благачынныя. Галоўнай мэтай епархіяльных і акруговых вучылішчных з’ездаў, згодна з уставамі духоўных навучальных устаноў 1867 г., быў выбар асоб у праўленне семінарый і вучылішч, а таксама пошук дадатковых сродкаў для фінансавання навучальных устаноў. Вельмі істотнае значэнне сталі набываць з’езды па царкоўна-грамадскіх справах — благачынныя з’езды і саветы. На з’ездах аб’яўляліся распараджэнні епархіяльнага кіраўніцтва, выбіраліся благачынныя, дэпутаты на акруговыя і епархіяльныя вучылішчныя з’езды, разглядаліся царкоўныя дакументы, вырашаліся кан-

флiктныя сiтуацыi памiж прыходамi i благачыннымi альбо ўнутры прыхода, гаспадарчыя пытаннi.

З мэтай самакiравання царкоўнапрыходскага жыцця стваралiся благачынныя саветы. Фармiравалiся саветы благачыннымi з'ездамi i павiнны былi вырашаць канфлiктныя сiтуацыi ўнутры прыхода, разглядалi скаргi на клiрыкаў, якiя не патрабавалi фармальнага расследавання, наглядалi за выкананнем царкоўнай дысцыплiны. Рэалiзацыя рэформы ў гэтым накiрунку паказала, што духавенства беларускiх епархiй адным з першых уключылася ў справы самакiравання. Благачынныя з'езды ўпершыню адкрылiся ў Мiнскай епархii пад назвай саборыкаў [13, с. 171]. Таксама ў Мiнскай епархii ўпершыню з'явiлiся благачынныя саветы. А правiлы саветаў, стаўшыя ўзорам для iншых епархiй, былi складзены Макарыем, архiепiскапам Лiтоўскiм [6, арк.1]. З'езды не толькi вырашалi праблему матэрыяльнага забеспячэння навучальных устаноў, але i пытаннi наконт стварэння жаночых вучылiшч духоўнага ведамства, змены навучальных праграм, сацыяльнага забеспячэння i стварэння епархiяльных свечных лавак i заводаў. Адначасова iх дзейнасць была пазбаўлена самастойнасцi, паколькi епархiяльная ўлада фармiравала парадак пытанняў i склiкала з'езд, таму ўсе рашэннi рэалiзавалiся на практыцы толькi з дазволу архiрэя. У 1862 г. былi ўведзены выбары благачынных, але iх статус не быў перагледжаны, таму дзейнасць iх часам не была эфектыўнай, мелiся некаторыя недакладнасцi ў iх справаздачах. Ад благачынных патрабавалi аглядаць благачынне мiнiмум два разы ў год, што патрабавала дадатковых сродкаў, а некаторыя з iх увогуле не атрымлiвалi матэрыяльнае ўзнагароджанне. Так, напрыклад, пытанне з узнагароджаннем благачынных у Лiтоўскай епархii было вырашана толькi ў 1893 г. [2, с. 66]. Ад благачынных патрабавалi пiльнага нагляду за епархiяй, але паколькi адзначаныя абставiны перашкаджалi гэтаму працэсу, было вырашана ў 1881 г. увогуле адмянiць iх выбарнасць. У вынiку рэалiзацыi рэформы склалася развiтая сiстэма выбарных органаў духавенства, якая iмкнулася вырашаць пытаннi пастырскай дзейнасцi, упарадкаванне прыходаў, царкоўнапрыходскiх школ, што садзейнiчала сацыяльнай актыўнасцi святарства.

Царкоўныя рэформы 60—70-х гг. XIX ст. умацавалi пазiцыi праваслаўнай царквы. У вынiку iх рэалiзацыi была скасавана саслоўная замкнёнасць праваслаўнага духавенства, якасна палепшыўся ўзровень яго прафесiйнай падрыхтоўкi; духавенства атрымала права на ўдзел у органах самакiравання, адбылося значнае паляпшэнне матэрыяльнага дабрабыту праваслаўнага святарства. Неадназначна пазiцыя праваслаўна-



га духавенства ў справе народнай пачатковай адукацыi. Iдэалагiчны напрамак палiтыкi царскага ўрада патрабаваў ад святароў пiльнага нагляду за маральным i рэлiгiйным жыццём насельнiцтва, што нярэдка супярэчыла прынцыпам духавенства i прынiжала яго сацыяльны статус. Але праваслаўнае духавенства выконвала свой грамадзянскi абавязак, прымаючы актыўны ўдзел у адкрыццi для мясцовага насельнiцтва пачатковых школ: аказвала фiнансавую падтрымку ў iх арганiзацыi, прадстаўляла для школ свае хатнiя памяшканнi, працавала ў iх бясплатна.

**ЛIТАРАТУРА**


1. *Иванова, Н. А.* Сословно-классовая структура России в конце XIX и начале XX в. / Н. А. Иванова, В. П. Желтова. Ин-т рос. истории. М.: Наука, 2004. 574 с.

2. Исторический очерк состояния Православной церкви в Литовской епархии за время с 1839—1889 гг. / сост. Н. Д. Извеков. М.: Типогр. А. И. Снегиревой. 1899. 522 с.

3. *Миловидов, А. И.* Заслуги гр. М. Н. Муравьева для православной церкви в Северо-Западном крае / А. И. Миловидов. Харьков: Типогр. губерн. правления. 1900. 92 с.

4. *Миротворцев, В. В.* Меры правительства к преобразованию быта белого духовенства в царствование государя императора Александра II / В. В. Миротворцев // Православный собеседник. 1880. Ч. 3.

5. Могилевская епархия в 1896 г. // Могилевские епархиальные ведомости — 1897 г. № 26 (неофициальный отдел). С. 353.

6. Нацыянальны гiстарычны архiў Беларусi (НГАБ). Ф. 96. Воп. 1. Спр. 87.

7. НГАБ. Ф. 96. Воп. 8. Спр. 166.

8. НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 32950.

9. Отчет по управлению Минской дирекцией народных училищ за 1867 год. Минск: Типогр. купца Я. Дворца.

10. Отчет по управлению Минской дирекцией народных училищ за 1868 год. Минск, Б. г.

11. Полное собрание законов Российской империи повелением государя Николая Павловича составленное: Собр. II: С 12 декабря 1825 г. СПб.: Типогр. отд. собств. его императорского величества, 1830. 973 с. Т. 44. Отд. I.

12. *Римский, С. В.* Российская церковь в эпоху великих реформ: (Церковные реформы в России 1860—1870-х гг.) / С. В. Римский. М., 1999. 532 с.

13. *Руновский, Н.* Церковно-гражданские законоположения относительно православного духовенства в царствование императора Александра II / Н. Руновский. Казань, 1898.





14. *Товаров, А. В.* Личный состав Минской епархии на 1905 г. / А. В. Товаров. Минск, 1905. 95 с.

15. *Фёдоров, В. А.* Русская православная церковь и государство: Синодальный период (1701—1917) / В. А. Фёдоров. М.: Русская панорама, 2003. 479 с.; ил., табл.

